# НІВА

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БГКТ

№ 34 (547) 21 ЖНІЎНЯ 1966 г. Цана 60 гр

Яшчэ раз будзем гаварыць аб справе школьнага будынка ў вёсцы Рэдуты Бельскага павета. Як мы ўжо ўспаміналі на старонках «Нівы», у Рэдутах існуе сямікласная школа, а ад 1 верасня гэтага года мае распачаць навуку 8-мы клас пачатковай школы. Дзеці вучацца тут ужо 22 гады выключна ў прыватных памяшканнях.

**РАЗМОВА З ІНСПЕКТАРАМ**

— Людзі адмовіліся там наймаць свае памяшканні на школу — гаворыць намеснік інспектара Мар'ян Татарчук. — І да сённяшняга дня ніяк не можам гэтай справы ўладзіць. Гаварылі мы тут у павеце аб гэтым. Усе мы сцвярджаем, што праз гэтыя каробкі і саламянкі, якія прадаюць рэдутаўцы, ім «садовая вада стукнула ў галаву». Як так можна, каб сваім дзецям не маглі наняць памяшканняў на школу? Гэта ж чыстыя эгаісты.




— А як будзе са школай, калі не знойдзецца памяшканне?

— Што ж, мы вырашылі закрыць тыя класы, якім не знойдзецца памяшканне?

— А што з рэалізацыяй дэкрэта аб школьным абавязку, які забавязвае кожнага здаровага да 17 год кончыць пачатковую школу?

— ...?

**РАЗМОВА Ў ГРН**

Старшыня ГРН гаворыць наступнае:

— Я асабіста аб людзях у Рэдутах кепскага нічога не магу сказаць. Не хачу іх апраўдваць, але вось прыклады. Перад усім гэта першая вёска ў нашай ГРН, якая заўсёды ахвярна бярэцца за працу грамадскім чынам. Апошнім часам зрабілі 500 м дарогі: акапалі яе равамі, навазілі пяску і гравію. Забавязаліся ўлажыць у вёсцы тратуар. Усё зробяць самі, ГРН купіць толькі цэмент. Калі разыходзіцца аб школу, то таксама забавязаліся за свае складчыны купіць драўляны будынак і паставіць яго на пляцу, каб служыў за школу, пакуль новай не будуць будаваць. Але ўлады не дазваляюць.

**РАЗМОВА Ў РЭДУТАХ**

А навошта мне здалася гэтая школа. Толькі клопату з тым, а плацяць зусім мала. Я разумею, што гэта дзеці, але праз некалькі год ужо хопіць, наслухалася гэтага піску. Хачу спакойна пажыць.

— Трымаў школу пакуль вучылася маё дзіця. А зараз няхай іншыя прыймаюць. Я хату ставіў на тое, каб мець прастор.

— Чым на школу аддаваць памяшканне, дык лепш рабіць у ёй саламянкі ці каробкі, з таго большы даход.

— А ці дзяржава толькі цяпер даведалася, што ў нас школы няма? Ужо даўно прыязджалі і абяцалі, што пабудуюць у хуткім часе школу, толькі «фундуш» заплаціць трэба. Мы і плацілі і каменні назвозілі, а яе ніхто і не думае будаваць. Цяпер нам нават ніхто не хоча сказаць калі ўвогуле будзе будавацца школа ў Рэдутах...

**КАНФЛІКТ**

Між вёскай Рэдуты і аддзелам асветы узнік канфлікт. Канфлікт, які існаваў ужо ў мінулым годзе. Улады абвінавачваюць людзей, рэдутаўцы — улады. У пэўнай меры маюць рацыю ўлады, але маюць яе і рэдутаўцы. Сапраўды, справа пабудовы школы цягнецца даўно, а зараз у павеце ніхто не патрапіць сказаць, калі будзе будавацца школа ў Рэдутах, бо ў гэтай пяцігодцы — не. Ёсць там і такая сітуацыя, што адзін з гаспадароў аддае на школу цэлую хату, толькі просіць, каб яе выканчыў аддзел асветы, за што ён праз некалькі год не будзе пабіраць аплаты. Але гэтага здзейсніць не хоча аддзел асветы, таму што не мае «праўнай падставы».

*

Гатовае рашэнне гэтага канфлікту падаць цяжка. Думаем, што толькі шчырая размова з жыхарамі Рэдутаў можа даць вынік, які задаволіць абодва бакі. Ні ў якім выпадку нельга завастраць справы ліквідацыяй школы.

**А. Лабановіч**

## • Адкрываем Беласточчыну •

Плывем на двух лодках па рацэ Нараўка праз Белавежскую пушчу. Прамяністы ранак прыгас, паявіліся хмары, але дзень спякотны. Нараўка пятляе, месцамі разліваецца ў аброслыя затонні. Хтосьці з нас заўважыў звярыны вадапой. Недалёка, перад намі, нырае вывадак дзікіх качак. Праплываем паблізу пахілай шопы на сена, каля якой пільна палююць два буслы. Саламяны дах шопы згніў, на латках сядзяць, бы чарнакамяністыя пацёркі, сотні шпакоў, чырыкаюць па-вараб'інаму, а нават сварацца.




Падумаў я, што белавежская прырода адносіцца да нас як бы па-сваяцку, шчырнічае сваёй непалахлівасцю. Выдалася мне дзіўным паняцце: чалавек і прырода. Хіба чалавек — гэта ўжо не прырода?

Пабольвае пята, якую прастраміў на бутэльчыным шкле, калі мы зносілі лодкі са штучнага вадаспада каля белавежаўскага парка. На шчасце, маем паходную аптэчку. Чым далей у пушчу, тым чысцейшае і бяспечнейшае дно рэчкі... Выгодныя людзі з бутэлькамі выпіўкі не любяць далёка аддаляцца, паскудзяць паблізу.

Налева ад нас паявілася па-летняму апусцелая лясная вёсачка Пагарэльцы. Далей: востры паварот і на гэтым павароце лодкі пагразлі ў смярдзючай гнілой масе сцятага трысця. Не прайсці, не праплысці! Прабіваемся наперад сантыметр па сантыметру, пот залівае вочы, у карк пячэ сонца. Мая лодка старая, падгніўшая, пачынае патрэскваць і набіраць вады. Хапаючыся рукамі за прыбярэжнае голле, шчасліва выбіраюся першым з таго тваністага месіва і штосілы вяслую наперад, у пошуках плыткай затокі. Ратуюся.

Рака Нараўка стаецца ўсё больш зарослай, непраходнай. Буйнасць прыроды супакойвае, чыніць чалавека павольным і развахлівым. Навокал спакой, лад, і радасць жыцця. Уцеха жыцця! Як жа моцна патрэбныя цяперашняму чалавеку — спакой, лад, радасць, уцеха... Уцеха жыццём, светам, зямлёю.

Да мястэчка Белавежа прыплылі мы падвечар. Ужо здалёку чуваць бурчэнне машын, матацыклаў, смурод бензіну, нейкія крыкі ды шум. Гэта наш, чалавечы, свет і даволі было адарвацца ад яго на кароткі час, а варочаліся мы да яго здзіўленымі, аглушанымі. Мучаць такія вяртанні.

У мястэчку Белавежа была нядзеля і званілі ў царкве. У святочны дзень поўна тут аўтобусаў з усяе Польшчы — са Слёнска, Познані, Гданьска, не кажучы ўжо аб Варшаве. Прыезджы народ валіць гурбою на спецыяльную вышку паглядзець зуброў у загародзе, ідзе крок у крок за праваднікам у Нацыянальны парк, пад дуб Ягайлы, потым у музей (у беларускі музей яшчэ не), потым на абед... Усё адбываецца хутка, спешліва. Так, як у Варшаўскім заапарку ці палацы культуры... бо другія чакаюць паглядзець. Той, хто першы раз паглядзіць на Белавежскую пушчу, пачуецца як бы расчараваным. Такое пачуццё вынікае ад таго, што з назваю пушчы мы спалучаем карціну дрымучага цёмнахвойнага бору. Тым часам Белавежская пушча — гэта нізкарослы ліставы гушчар і толькі месцамі можна напаткаць кварталы з высачэзнымі соснамі...

Нашы палітыканты ад турыстыкі дапусціліся таго, што прызвычаілі людзей трактаваць гэту пушчу, як музейны экспанат, як нейкую сенсацыю. Словам, няма сур'ёзнага падыходу да спраў выкарыстання Белавежскай пушчы, як месца «вчасовага» адпачынку, такога, як на мазурскіх азёрах ці ў Аўгустоўскай пушчы. Лодкавая станіца ў Белавежы размешчана ў правізорным бараку з двума паўразваленымі памостамі, з дваццаццю паўгнілымі лодкамі. Рака Нараўка ачышчана толькі ў ваколіцы мястэчка Белавежа, сцятая рачная трасціна паплыла ўніз і парабіла запынкі. На адным з такіх запынкаў мы гразлі, потым пераносілі лодкі берагам. Палітыканты ад турыстыкі нават не чырванеюць, калі робяць рэкламу лодкавых паходаў па рацэ Нараўцы праз Белавежскую пушчу... Мы зрабілі такі паход і ніхто з сустрэчных людзей не мог прыпомніць сабе, каб да гэтага часу хто праплываў сюдою!? Нічога дзіўнага, што ніхто, бо рака Нараўка занядбаная, непрыгатаваная да такіх паходаў. А такі лодкавы паход ад мястэчка Белавежа да мястэчка Нараўка або і далей па Нарве аж да Страблі, Тыкаціна, Ломжы напраўду цудоўны сваёй дзікай, непадстрыжанай буйнасцю.

(Працяг на стар. 3)



У Белавежскім парку.

## Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ

АД ЛЮТАГА 1966 ГОДА

Пачынаючы ад лютага гэтага года амерыканскія самалёты зрабілі 700 бамбардзіровак на тамы і ўстройствы навадняючай сістэмы Паўночнага В'етнама. Бамбардзіроўкі гэтыя з'яўляюцца добра прадуманымі актамі злачынства ўрада Злучаных Штатаў Амерыкі.

12. VIII амерыканскія самалёты збамбардавалі між іншым паўночна в'етнамскую электроўню ў Гонг Бі. Электроўня гэтая была ўжо бамбардаванай чатыры разы.

13. VIII. амерыканскія самалёты збамбардавалі паўночна-в'етнамскую вёску недалёка ад прадмесцяў сталіцы краіны — Ганоі. Звыш 30 жыхароў гэтай вёскі было забітых або раненых.

ЗАЯВА МЗС ДРВ

Міністэрства замежных спраў ДРВ апублікавала заяву ў сувязі з высадкай у Паўднёвым В'етнаме 6 жніўня 3 000 салдат 4-й пяхотнай дывізіі ЗША.

З прыбыццём гэтага кантынгента, указваецца ў заяве, колькасць амерыканскіх салдат у Паўднёвым В'етнаме ўзрасла да 285 тысяч. Гэта служыць наглядным доказам таго, што амерыканскія імперыялісты працягваюць расшыраць агрэсіўную вайну ў В'етнаме, нягледзячы на пратэсты сусветнай грамадскасці. Высадка новых амерыканскіх войск у Паўднёвым В'етнаме з'яўляецца абураючым парушэннем Жэнеўскіх пагадненняў 1954 года па В'етнаму і выклікам в'етнамскаму народу і ўсяму прагрэсіўнаму чалавецтву.

ПАВЕЛІЧЭННЕ ВАЕННЫХ РАСХОДАЎ

Расшырэнне амерыканскай агрэсіі ў В'етнаме вядзе да далейшага нястрымнага росту ваеннага бюджэту ЗША, эскалацыі асігнаванняў на злачынную вайну супраць в'етнамскага народа.

З ваеннага бюджэту Пентагона на 1966—1967 год, які складае 58,6 мільярда долараў, на вайну ў В'етнаме прызначалася 12 мільярдаў долараў. Паводле паведамленняў друку, гэтыя асігнаванні аказаліся недастатковымі з прычыны далейшага расшырэння агрэсіі ў В'етнаме.

У колах, блізкіх да Пентагона, паведамляюць, што ведамства Макнамары лічыць неабходным падвоіць расходы на гэту вайну.

ЗНОЙДЗЕНА КНІГА, НАПІСАНАЯ Р. ЗОРГЕ

«Нойес Дойчланд» паведамляе аб тым, што вучоныя Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі знайшлі невядомую да гэтага часу кнігу аб германскім імперыялізме, напісаную Рыхардам Зорге — асам савецкай разведкі ў час II сусветнай вайны.

З ІРАНА Ў МАСКВУ

У Маскву па запрашэнню Вярхоўнага Савета СССР 9 жніўня прыбыла парламенцкая дэлегацыя Ірана. Яе ўзначальваў старшыня сената — верхняй палаты парламента (меджліса) Джафар Імамі Шарыф.

ПАГАДНЕННЕ ПАМІЖ ІНДАНЕЗІЯЙ І МАЛАЙЗІЯЙ

Інданезія і Малайзія падпісалі пагадненне, якое кладзе канец больш чым трохгадоваму процiборству дзвюх краін. Пагадненне, мэта якога нармалізацыя адносін паміж Інданезіяй і Малайзіяй, падпісана міністэрствам замежных спраў Інданезіі Адамам Малікам і намеснікам прэм'ер-міністра Малайзіі Абдул Разакам. (п)

## БССР

500.000

Мінскі трактарны завод прадукуе за суткі 250 трактароў. Нядаўна выпрадукавана тут 500-тысячны трактар тыпу «Беларусь».

БЕЗІНДЫВІДУАЛЬНАСЦЬ

Адбыўся IX з'езд архітэктараў Беларусі. Са справаздачным дакладам праўлення Саюза архітэктараў БССР выступіў старшыня праўлення Э. Дзямідаў.

«Нельга не сказаць пра непажаданы працэс, які вядзе да таго, што паступова растрараецца індывідуальнае аблічча гарадоў. Многія новыя жылыя раёны Масквы і Ташкента, Віцебска і Ленінграда мала чым адрозніваюцца адзін ад аднаго. І гэта тлумачыцца тым, што сучаснае масавае жыллёвае будаўніцтва вядзецца пераважна аднатыпнымі жылымі дамамі заводскага вырабу» — сцвердзіў Э. Дзямідаў.

МАЛА

На савецкіх экранах дэманструецца фільм — «Як вас цяпер называць»? — зроблены па матывах аповесцей М. Прудніквава, камандзіра беларускіх разведчыкаў «Няўлоўныя», якія дзейнічалі ў аколіцах Полацка.

— Аб гераічных справах беларускага народа ў гады цяжкіх выпрабаванняў напісана яшчэ вельмі мала, — гаворыць Прудніккаў у сваім інтэрв'ю для мінскай «Настаўніцкай газеты».

НЯДБАЙНАСЦЬ

Нядаўна найбольш уплывовая беларуская газета «Советская Белоруссия» разам з Беларускім радыё правяла рэйд па аб'ектах лёгкай, спажывецкай і мяса-малочнай прамысловасці. У апублікаванай справаздачы з рэйда «Советская Белоруссия» піша: — Рэзультаты рэйда «Советской Белоруссии» і Беларускага радыё, рэзультаты праверкі народных дазорных разглядаў на сваім пасяджэнні Камітэт народнага кантролю БССР. Сарванне планаў будоўлі аб'ектаў лёгкай, спажывецкай і мяса-малочнай прамысловасці закваліфікаваў ён як безадказныя адносіны выканаўцаў і заказчыкаў да даручанай справы. Іначай выясніць гэтага нельга».

«Советская Белоруссия» вылічае некаторыя прычыны такой кепскай сітуацыі — балаган у арганізацыі працы, няўзгодненасць, адсутнасць узаемнага зразумення і ўзаемнай дапамогі паміж заказчыкам і выканаўцам.

БЕЛАРУСКІЯ

Беларускія сувеніры будуць шырока прадстаўлены на сусветнай выстаўцы ў Манрэалі (Канада). Шмат вырабаў на гэту выстаўку пастаўляюць Аршанская і Слонімская мастацкія фабрыкі. У кіёсках манрэальскай выстаўкі будуць прадавацца славутыя слуцкія паясы, тканыя спадніцы, гальштукі, вырабы з дрэва, лазы, саломы, мастацкай керамікі ды многае іншае, што прадукуе беларуская мастацкая прамысловасць.

МІНІСТЭРСТВА

Галоўнае ўпраўленне лясной гаспадаркі пры Савеце Міністраў Беларускай ССР пераўтворана ў Міністэрства лясной гаспадаркі Беларускай ССР. (СЯ)

## ПОЛЬШЧА

МАЛАКО Ў ПАРАШКУ

У Эльблёнгу (Гданьскае ваяводства) пачала прадукцыю фабрыка, якая зможа ў год ператварыць у парашок 8 мільёнаў літраў малака. Фабрыка абсталявана машынамі польскай прадукцыі, якія тут здаюць экзамен спраўнасці. Эльблёнгская фабрыка прадукуе паўнавартаснае малако ў парашку для дзяцей і худое малако на корм для жывёліны і для спажывецкай прамысловасці.

ГРАНАТА НА ПАДДАШШЫ

Жыхары дома № 11 пры вуліцы Свентакшыскай у Быдгашчы ўвесь час спакойна вешалі бялізну на паддашшы свайго дома, не ведаючы, што ў кожную секунду пагражае ім смерць. Больш 20 год ляжала там зараджаная граната. Знайшлі яе электраманцёры, калі рамантавалі электрычныя правады. Зараджаную гранату шчасліва прыбралі сапёры.

ЦУДОЎНЫ ПРЫБОР

Польшча, як першая ў Еўропе, а другая (за ЗША) у свеце, прадукуе ласерныя хірургічныя прыборы — каагулятары. Пры дапамозе гэтых прыбораў лекары праводзяць вельмі складаныя аперацыі вока. Канструктарамі польскага каагулятара з'яўляюцца навуковыя супрацоўнікі Ваенна-тэхнічнай акадэміі ў Варшаве. Пры дапамозе гэтага цудоўнага прыбора ў бальніцах сталіцы праведзена ўжо больш 100 удаых аперацый.

СПР-ы ЯШЧЭ ПРЫМАЮЦЬ

Вучням, якія закончылі 7-ы клас пачатковай школы і могуць вучыцца ў прафесіянальных школах, падаем да ведама, што яшчэ прымаюць кандыдатаў школы сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. Найбольш свабодных месц у Беластоцкім, Келецкім, Кашалінскім, Варшаўскім і Апольскім ваяводствах. Зараз у нашай краіне дзейнічае каля 3200 СПР-аў, якія могуць прыняць у першыя класы каля 70 тыс. вучняў.

ЗАБОЙЦА ПАД КЛЮЧОМ

Кракаўская міліцыя арыштавала грознага бандыта Кароля Кота, які забіў дзве асобы і падазраваецца ў другіх злачынствах. Яму толькі 20 год. У час расследвання справы Кароль Кот прызнаўся да віны, пацвердзіў акт абвінавачання і нават заявіў, што планаваў яшчэ другія забойствы. Дзеля гэтага ён сістэматычна праводзіў трэніроўку ў кіданні нажом. У час вобыску ў памяшканні бандыта знайшлі аж 17 рознага размеру бандыцкіх нажоў.

АТРУЦІЛІСЯ ГРЫБАМІ

Разам з першымі грыбамі, як штогод, паяўляюцца весткі аб смяротным атручванні імі. Нядаўна ў быдгаскую бальніцу даставілі тры жыхаркі вёскі Аўгустаў: 24-гадовую Яніну, 20-гадовую Рэгіну і 4-гадовую Дануту Плоцкіх. На жаль, удалося адратаваць толькі Яніну Плоцкую. Гэта толькі адзін прыклад з вялікай жалобнай статыстыкі. Атручванне грыбамі тым больш грознае, што яно звычайна адносіцца да цэлай сям'і, а дзеці рэдка калі ўдаецца адратаваць. Трэба больш уважліва адносіцца да грыбоў. Калі няма ўпэўненасці, ці грыб добры, лепш яго не браць.

## ВАЯВОДСТВА

ВІЗІТ НАМЕСНІКА ПРЭМ'ЕР-МІНІСТРА С. ІГНАРА

Нядаўна наведаў Беласточчыну намеснік старшыні Савета Міністраў ПНР Стэфан Ігнар. У час двухдзённай пабыўкі ў Беластоцкім ваяводстве цікавіўся ён шматлікімі праблемамі сельскагаспадарчай вытворчасці. У паездках па ваяводстве спадарожнічалі яму прадстаўнікі Ваяводскага камітэта ПАРП і Прэзідыума ВРН, а сярод іх: сакратар Станіслаў Кудла і старшыня Стэфан Жмійка.

Першага дня сваёй пабыўкі на Беласточчыне намеснік прэм'ер-міністра, пасля кароткай нарады ў Прэзідыуме ВРН, наведаў некаторыя мясцовасці ў Гайнаўскім, Бельскім і Беластоцкім паветах. Асабліва цікавіла яго грамадская камасацыя цераспалосіцы. Стэфан Ігнар пабываў у ПГР Дыдуле, які нядаўна ўтварыўся на аснове скамасаванай зямлі дзяржаўнага фонда. Спыніўся таксама ў вёсках Грыгароўцы, Сухавольцы і Дамброўкі.

На Беласточчыне ўсё яшчэ астаецца ў цераспалосіцы аж 418 вёсак. Займае яна плошчу ў 198 тысяч г. Зацікаўленне прадстаўнікоў урада праблемамі гаспадаркі на палосках шмат абнадзейвае сялян. Могуць яны спадзявацца нейкай змены ў сваю карысць у адносінах да гэтай набалелай справы.

На другі дзень намеснік прэм'ер-міністра цікавіўся станам загаспадараваня балота «Візна» і другімі праблемамі паўночных паветаў.

ПАСТАЎКІ РАПСУ

Рапс стаецца папулярнай раслінай на Гайнаўшчыне. Пачынаючы ад 25 ліпеня г.г. склады гайнаўскага ГС-у штодзень прыймаюць дзесяткі тон рапсавага насення. Гаспадары некаторых вёсак наладжваюць калектыўныя пастаўкі. Дзесяць сялян з вёскі Койлы ў адзін дзень даставілі на склад 12 тон рапсу, а курашаўскія гаспадары прывязлі 10 тон. Рапс сёлета абрадзіў багата.

20 ГОД ДЗЯЦІНЦУ

Дзяржаўны дом дзяцей у Алецку нядаўна адзначыў 20-ты год сваёй высакароднай дзейнасці. Пастаянна паляпшаліся тут умовы жыцця малых выхаванкаў, якім злы лёс адабраў уласных бацькоў і ўласны дом. Цяпер у іх распараджэнні прасторная пляцоўка для гульняў, абсталяванне якой каштавала 150 тыс. злотых. Дзеці вучацца і працуюць. Гадуюць яны трусоў, а вясной пасадзілі ў садзе 70 фруктовых дрэвак.

УВАГА, ГАРЫЦЬ!

На працягу мінулага тыдня пажарнікі Беласточчыны аднатавалі аж 17 пажараў. Затраты (на аснове першых падлікаў) ашацоўваюцца на суму ў 372 тысячы злотых.

Асаблівае «шчасце» да пажараў маюць Мілейчыцы ў Сямяціцкім павеце. У аўторак 2 жніўня ў фабрыцы кафляў загарэліся дровы на складзе, а 9 жніўня з дымам пайшлі дзве клуні і 1 хлеў. Затраты — каля 90 тыс. зл. Затым больш грозныя пажары ўспалыхнуліся 13 жніўня ў мясцовасцях Сураж, што ў Лапскім павеце і ў Новадворцах, што ў Беластоцкім павеце. У Суражы згарэла 4 гаспадарчыя будынкі, а ў Новадворцах — 3 клуні са збожжам.

## Тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія

**NIEDZIELA, 21. VIII. 1966**

11.00 Z cyklu „W świecie sztuki" — węgierska twórczość ludowa (Budapeszt); 11.30 Przerwa; 13.50 Program dnia; 13.55 „Awantura o Basię" — film fab. pol.; 15.30 Dla dzieci: H. A. Zapletalowie: „O królewnie Nutce i królewiczu Kamertonie"; 16.00 „W zielonym obiektywie" — program Redakcji Wiejskiej; 16.25 „Świat, obyczaje, polityka"; 16.45 „Melodie cygańskiego taboru" — program w oprac. J. Ficowskiego; 17.15 „Nie ma Kaszub bez Polonii" — rep. filmowy z cyklu „Ludzie i zdarzenia"; 17.30 Z cyklu „Największe teatry operowe świata" — film pt. „Teatr Wielki w Moskwie"; 18.15 PKF; 18.25 „Divertimento c-moll". Tekst i reżyseria — J. Przybora, muzyka — J. Wasowski, scenografia — A. B. Wahl, reżyseria tv — I. Sobierajska. Wykonawcy: K. Jędrusik, K. Sienkiewicz, I. Gogolewski, G. Holubek, B. Pawilk, W. Szklarska, oraz J. Przybora; 19.00 „Słownik Wyrazów Obcych"; 19.20 „Dobranoc" 19.30 Dziennik TV; 20.00 Niedzielny program rozrywkowy (Berlin); 20.45 „Szerszeń" — film fab. radz.; 22.20 „Niedziela Sportowa".

**PONIEDZIAŁEK, 22. VIII. 1966**

17.35 Program dnia; 17.40 Wiadomości dziennika tv; 17.45 „W starym kraju" — („7 milionów młodych"; 18.00 „Kino Krótkich Filmów"; 18.35 „Giełda reporterów"; 19.05 Przemówienie Ambasadora Rumuńskiej Republiki Ludowej z okazji Święta narodowego Rumunii; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik telewizyjny; 20.00 „Eureka" — magazyn popularno-naukowy; 20.30 III TELEWIZYJNY FESTIWAL TEATRÓW DRAMATYCZNYCH: „Kolumbowie" R. Bratnego, wolna adaptacja — A. Hanuszkiewicz, reżyseria — A. Hanuszkiewicz, scenografia — M. Stajewski, reżyseria tv — J. Wiśniewska. Wykonawcy: Artyści Teatru Powszechnego w Warszawie; 22.10 Dziennik telewizyjny.

**WTOREK, 23. VIII. 1966**

11.00 Film fabularny; 12.25 Przerwa; 17.45 Program dnia; 17.50 Wiadomości dziennika tv; 17.55 Dla młodych widzów: „Na miejsce — gotowi — start!" („Wakacje i sport"); 18.15 „Informator handlowy"; 18.25 Występ Zespołu Estradowego Wojsk Lotniczych „Eskadra" (program z okazji Święta Odrodzenia Lotnictwa Polskiego); 18.55 „Bryza" — magazyn morski; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik telewizyjny; 20.00 „Pieśni o sierpniu" — program muzyczno-rozrywkowy z okazji święta narodowego Rumunii (Bukareszt); 21.30 „Na trzech frontach" — wspomnienia lotników — uczestników II Wojny Światowej; 22.00 Dziennik telewizyjny.

**ŚRODA, 24. VIII. 1966**

10.00 „Maria" — film fab. CSRS; 11.25 Przerwa; 17.40 Program dnia; 17.45 PKF; 17.55 Wiadomości dziennika tv; 18.00 „Znachor" — film („Kapitan Tenkesz"); 18.30 „Dynary" — reportaż filmowy z Jugosławii; 18.45 Wszechnica TV; „Technika czy medycyna?"; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik telewizyjny; 20.00 TV Kurier Warszawski; 20.15 „Maria" — film fab. CSRS; 21.40 „Światowid" — magazyn wydarzeń międzynarodowych; 22.05 Dziennik telewizyjny.

**CZWARTEK, 25. VIII. 1966**

17.45 Program dnia; 17.50 Wiadomości dziennika tv; 17.55 „Nie tylko dla pań" — magazyn; 18.15 „Śladami Pitagorasa" — teleturniej; 18.45 „Dobry wieczór, jak minął dzień?"; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik telewizyjny; 20.05 VI MIĘDZYNARODOWY FESTIWAL PIOSENKI W SOPOCIE. „Dzień międzynarodowy"; w przerwie ok. 21.10 „Polacy nad Adriatykiem" — reportaż filmowy z Jugosławii; po transmisji ok. 22.35 Dziennik telewizyjny.

**PIĄTEK, 26. VIII. 1966**

17.30 Program dnia; 17.35 „Klakson" — magazyn motoryzacyjny; 17.55 Wiadomości dziennika tv; 18.00 Wszechnica TV: „Wkrótce jesień" — program dla działkowiczów; 18.30 „Skrzydlaci mieszkańcy oceanów", film („Świat, który nie może zginąć") 13.55 Program publicystyczny; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik telewizyjny; 20.05 VI Międzynarodowy Festiwal Piosenki w Sopocie „Dzień polski"; w przerwie, ok. 21.10 „Pegaz", magazyn kulturalny; Po transmisji ok. 22.35 Dziennik telewizyjny.

**SOBOTA, 27. VIII. 1966**

10.00 „Azyl", film fab. USA; 11.30 Przerwa; 16.40 Program dnia; 16.45 Program tygodnia; 17.00 „Szlakiem podróży kapitana Coock'a" — film; 17.50 Wiadomości dziennika tv; 17.55 „Wisła" — reportaż filmowy; 18.35 „Po szóstej" — telewizyjny Klub Młodzieżowy; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 „Monitor"; 20.05 VI Międzynarodowy Festiwal Piosenki w Sopocie: „Piosenka nie zna granic"; w przerwie ok. 21.10 Dziennik telewizyjny; Po transmisji ok. 22.35 Wiadomości Sportowe; 22.45 „Azyl" — film fab. USA.

# ПРАЗ БЕЛАВЕЖСКУЮ ПУШЧУ

(Працяг са стар. 1)

Рай турыстам, прагнучым духоўнага адпачынку! Таму цяжка зразумець, чаму ў наш нервовы час яшчэ не асвоены належна, не арганізаваны гэты шлях для лодачных паходаў, які выдатна ўзбагаціў бы нашы турыстычныя магчымасці. Чаму на Белавежскую пушчу глядзім толькі з вокан аўтобусаў, з вышкі ў загародзе для зуброў і пад бокам усяведаючага праваднiка ў Нацыянальным парку... Урэшце і гайнаўскім уладам павінна залежыць на стварэнні саліднай турыстыкі, якая магла б даць не абы-якія матэрыяльныя карысці.

Белавежская пушча слаўная і невядомая, неадкрытая нават беластоцкімі людзьмі, якія значна больш ведаюць пра нейкі ручаёк у Аўгустоўскай пушчы, чым пра таемную Нараўку пасярод прастору бяскрайніх лясоў.

**Сакрат Яновіч**



Агляд лодкі на беразе ціхай затокі.

Фатаграфаваў: — **Ул. Паўлючук**

Усім спешна да дуба Ягайлы, а потым на абед...

Таемная Нараўка пасярод бяскрайніх лясоў.

# ЗБОР ЭКСПАНАТАЎ ДЛЯ БЕЛАРУСКАГА МУЗЕЯ Ў БЕЛАВЕЖЫ

У днях 12 і 14 ліпеня г. г. працаўнікі ГП БГКТ М. Лобач і К. Хлябіч правадзілі ў ГРН Юшкаў Груд зборку экспанатаў для Беларускага музея ў Белавежы. Вялікую дапамогу аказаў старшыня ГРН у Юшкавым Грудзе Мікалай Міруць, які суправаджаў збіральнікаў і гэтым прычыніўся да папаўнення музея каштоўнымі і рэдкімі экспанатамі. Збіральнікі сустрэліся таксама са шчырай прыхільнасцю насельніцтва і поўным зразуменнем. Ніжэй прыводзім спісак людзей, якія падарылі музею экспанаты.

МАЦЕЙКАВА ГАРА

Антось Андрушкевіч — невад, жак, лапата да хлеба, Аляксандр Андрушкевіч — 2 вершы, сажык, Сцяпан Нос — кломля.

РЫБАКІ

Янка Баршчэўскі — верша, Мікалай Хлябіч — верша, Янка Хлябіч — калядная звязда.

БАНДАРЫ

Дзімітры Казберук — цэп, вілы драўляныя, ключка да выцягання гною, Аляксандр Баршчэўскі — кадлубец, капанька.

ГАРБАРЫ

Уладзімір Палецкі — малаток разбіваць соль, 3 жалезныя пушы, Антаніна Палецкая — берда, Адэля Прылажынская — прасніца.

РУДНЯ

Аляксей Лаўрэшук — слоік на мёд, кадлубец, сачок, Іван Беглюк — прасніца і 2 кругелі, Кацярына Янушкова — 2 паясы да кажуха.

БАГНЮКІ

Юрка Багнюк — граблі, матыка, сашнік, дошкі да выціскання сыру.

СУПРУНЫ

Аляксей Барташэвіч — калаўротак, кругеля, карзіна, ступа і ступка.
Іван Карзуновіч — кломля.

БЕНДЗЮГА

Іван Рыгаровіч — жак, сачок.

СУШЧА

Мікалай Крэнтоўскі — капанечка, прылада да трапання ільну, Васіль Крэнтоўскі — цэп, драгоўка, піла падоўжняя, сікаўка, Вера Данілюк — гліняны падсвечнік, Васіль Данілюк — замок кавальскі, рэжчыкі, секачка, Уладзімір Данілюк — рэжчык такарскі, кошычак, Юлісь Палецкі — зубіла, бабка, 2 свярдзёлкі, цясліца.

ЛУКА — Гайнаўскі павет

Мікалай Новік — сачок.

Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства шчыра дзякуе ўсім вышэй паданым за падараныя экспанаты.

Зборка экспанатаў прадаўжаецца. Асаблівую ўвагу зараз ГП БГКТ звяртае на рыбацкія прылады, як: човен, сецъ, жакі, сажыкі, вершы і гд.

Патрэбныя таксама пасткі, паляўнічыя прылады. Апрача гэтага збіраем усё, што было выкананае рукамі беларусаў. Трэба, каб усе ўключыліся ў гэтую акцыю. Аб цікавых экспанатах просім паведамляць на адрас: ZG BTSK Białystok, ul. Warszawska 11.

# АБМЕН ДУМКАМІ

Нядаўна Бельскі павет наведаў Анатоль Федарук, былы жыхар гэтага ж павета. Зараз ён пастаянна пражывае ў Бярозе — БССР. А. Федарук прыехаў у Польшчу наведаць сваякоў і знаёмых. Зараз ён працуе ў Бярозаўскім райвыканкоме кіраўніком фінансавага аддзела.

Нават у час пабыўкі ў Польшчы не пераставаў думаць, як палепшыць працу свайго аддзела. Свайго часу, будучы ў Бельску, наведаў фінансавы аддзел Павятовай рады. Тут сустрэўся з кіраўніком аддзела Міхасём Тумашам, які кіруе аддзелам ужо многа год. Ад зусім прыватнага візіту пачаўся сапраўдны абмен дасягненнямі фінансавых аддзелаў дзвюх краін. А М. Тумаш меў аб чым расказваць. Некалькі гадоў назад гэты аддзел быў найгоршым аддзелам у Бельскім прэзідыуме. Людзі тут часта былі прыпадковымі, а ў сувязі з гэтым змяняліся, а з другога боку — быў гэта аддзел, на які найбольш скардзіліся (і слушна) людзі да ўсіх (уключна з цэнтральнымі) ўлад. На працягу 4—5 год усё тут змянілася. Скарг наплывае вельмі мала, а людзі пачалі з сімпатыяй адносіцца да працаўнікоў аддзела. Безумоўна, асноўная ў гэтым заслуга партыйнай групы, якая існуе пры аддзеле. Патрапіла яна дапамагчы кіраўніцтву аддзела развязаць усе балючыя справы. Здаецца, заслуга кіраўніцтва ў тым, што ва ўсіх справах падпарадкавалася яно загадам партыйнай групы.

Аб сваіх дасягненнях, а таксама і недахопах расказаў Анатоль Федарук. Быў ён таксама госцем урачыстага сходу працаўнікоў Прэзідыума ПРН прысвечанага 22 ліпеня. Абодва кіраўнікі сцвердзілі, што гэты неафіцыйны але вельмі шчыры абмен дасягненнямі вельмі дапаможа ім у далейшай працы.

(ак)

# ЗАБАЛАГАНІЛІ

З Крынак паведамляюць, што планаваны там беларускі фестын не адбыўся з прычыны арганізацыйнага балагану, які ўзнік па віне аддзела БГКТ. Арганізацыю гэтага фестына перанесена на асенні час, і возьмецца за яго мясцовая грамадская рада. Вельмі слушна, няма чаго аглядацца на павятовыя ласкі!

# Дружба і праца

Хрэстаматыя для VIII класа

ШТО КАЖУХ, ТО НЕ ВАТА

Давялося раз зімой гарадскому панічу паехаць у двор на імяніны.

Прыехаўшы па чыгунцы на станцыю, ён пайшоў на сяло, што ад станцыі за паўвярсты было, каб падводу наняць, бо яшчэ трэба было вёрст з чатырнаццаць канём ехаць. Вось зайшоў ён у адну хату, а там, якраз, абедаць садзіліся. Ён зняў шапку і кажа:

— Дзень добры!

— Дзень добры! — адказваюць.

— Ці не завязлі б мяне туды і туды?

— Чаму ж не, можна, — кажа гаспадар, пагадаўшы.

— А колькі ж хочаце за фурманку?

— Аб цану мы змяркуемся, а цяпер сядзьце, капусты сербанеце, бо да таго двара няблізка.

— Дзякую! Я ўжо гарбату піў.

— Ну, як воля ваша.

Гаспадар, пад'еўшы, не спяшаючы, закурыў люльку, сказаў цану, каторая панічу проці гарадскіх паказалася зусім малой, але ён з тым не пахваліўся: і яму грош, знаць, не дарма даецца.

Пасля гаспадар апрануў кажух, надзеў шапку і пайшоў запрагаць.

Запрогшы каня, прыйшоў у хату і, зняўшы з жэрдзі кажух, дае яго падпрануць панічу; але паніч не адважыўся апрануць мужыцкага кажуха і кажа:

— Дзякую! У мяне паліто на ваце.

— Ну, як воля ваша, — кажа гаспадар. Аднак жа, як ішлі садзіцца ехаць, то гаспадар узяў з сабою кажух у запас. Вот яны і едуць.

Спачатку панічу цёпла паказалася, але пад'ехаўшы вёрстаў пяць, бачыць гаспадар, што паніч стаў корчыцца, каўнер настаўляць, шапку на вушы нацягіваць і носам сёрбаць. Гаспадар і пытае:

— А можа кажух, паніч ,надзенеш?

— Не, дзякую.

І едуць далей.

Праехалі яшчэ вярсты са дзве, бачыць гаспадар, што паніча сталі дрыжыкі прабіраць, і пытае:

— А можа кажух, паніч, надзенеш?

— А добра, бо штось халаднавата.

Даў яму кажух апрануць, і едуць далей. Ужо і да двара блізка, адно — бачыць гаспадар, што паніч неяк бледнаваты, дык пытае ў яго:

— А што, панічу, не сцюдзёна цяпер?

— О, не! Цяпер цёпла.

—А можа, паніч, есці хочаш?

— О, і дужа хачу!

— А што, панічу: што кажух, то не вата, а што капуста, то не гарбата? Але пацярпі, паніч, хвілінку, незабавам прыедзеш!

І паказаў яму пугаём на той двор, каторы ўжо відаць было.

КАРУСЬ КАГАНЕЦ

1. Ахарактарызуй літаратурны жанр навелы.
2. У чым выявілася практычнасць селяніна і блізарукасць паніча?
3. Ці ведаеш якія-небудзь фальклорныя гумарыстычныя творы?

# МАЛ ЗАЛАТНІК — ДЫ ДОРАГ

Выхад у свет першага нумара літаратурнага альманаха «Белавежа» выклікаў у нашым беларускім асяроддзі ў Польшчы значны зрух, ажыўленне і шматлікія выказванні як у размовах ды спрэчках, так і на старонках «Нівы». Усе яны хоць часам надта супярэчлівыя і ўзаемна супрацьлеглыя, датычылі або творчасці паасобных нашых аўтараў, або агульнай праблематыкі, звязанай са з'яўленнем альманаха. Ва ўсіх гэтых выказваннях і спрэчках выразна прабіваецца пачуццё задавальнення, што мы, беларуская меншасць у Польшчы, здольны да выяўлення сябе ў так важнай дзялянцы нацыянальнай культуры кожнага народа, якой з'яўляецца мастацкая літаратура, і намагаемся ўнесці ў скарбніцу роднай беларускай літаратуры і нашую, хаця надта скромную, крышынку свайго ўласнага ўкладу.

Радуюць і натхняюць нас станоўчыя і падбадзёрваючыя, але адначасова патрабавальныя водгукі аб нашай літаратурнай дзейнасці, якія ўсё часцей паяўляюцца ў друку Савецкай Беларусі і на старонках «Нівы», але выходзячыя з-пад пяра савецкіх беларускіх крытыкаў і літарауараў. Яны, па-першае, прыходзяць нам, пішучым, з дзейснай дапамогай у справе дасканалення нашага творчага варштату; па-другое, сведчаць аб тым, што мы, белавежцы, зрабілі за восем год (лічачы ад даты выхаду першага зборніка вершаў «Рунь» у Беластоку ў 1958 годзе) значны крок наперад у літаратурнай творчасці, калі ўжо ёсць факты, дазваляючыя і ўпаўнаважаючыя весці аўтарытэтныя дыскусіі і даваць грунтоўныя ацэнкі літаратурным з'явам.

Здаецца, настаў ужо час канстатаваць, што з'яўленне беларускай літаратуры ў Польшчы стала неабвяргальным і агульнапрызнаным фактам і маем усе падставы спадзявацца яе далейшага няспыннага развіцця і дасканалення. Парукай гэтаму не толькі спрыяльныя ўмовы, створаныя народнай уладай у нашай краіне, але і тыя творчыя задаткі, якія ўласцівы многім нашым пішучым белавежцам.

Іменна з пункту гледжання выяўленых задаткаў мы і хочам глянуць на творчасць тых нашых аўтараў, якія ў «Белавежы» прадстаўлены ўсяго толькі некалькімі творамі. Да іх ліку належыць між іншым Юрка Зубрыцкі. У альманаху знаходзім яго чатыры вершы («Касмічны сон», «Месяц», «Зямля», «Новае»).

Ужо сам парадак іх размяшчэння: Космас — Месяц — Зямля — Новае падказвае логіку развіцця паэтычнай думкі Ю. Зубрыцкага. Будзе яна паступова сыходзіць з вышынь касмічных на наша зямное ўзлонне. Прасочым яе, спрабуючы адначасова знайсці адметныя рысы творчасці гэтага аўтара. І так, верш «Касмічны сон» уводзіць нас у свет паэтычных візій, пабудаваных на сутыкненнях таго велічнага новага, якім з'яўляецца пачатак заваявання Космасу, з натурай самога здзейсніцеля гэтага подзвігу — Чалавека. Наперакор усім сучасным нам менш ці больш гучным тэорыям і прароцтвам аб гібельнай для чалавецтва інвазіі на Зямлю істот з іншых планет Зубрыцкі сцвярджае, што нідзе і нішто не зможа абараніцца ад нашай людской ваяўнічасці, задзірыстасці і захланнасці. Не Космас пагражае Чалавеку, а зусім наадварот — з'яўленне Чалавека ў Космасе пагражае найбольшай небяспекай для ўсяго Сусвету. Але пакуль што гэтае надта ж песімістычнае сцверджанне спавіта ў вершы ў вэлюм лёгкіх аптымістычных вобразаў. Лірычны герой як быццам бы не задумваецца ўсур'ёз над яго цяжарам. Ён у сваім наваколлі шукае і тымчасова знаходзіць крыніцы радасці з жыцця, прыгажосць і дасканаласць. У вершы «Месяц» на фоне чароўнай вячэрняй Белавежы перад намі ўстае чалавек вольны, задаволены светам і самім сабою, не прыдушаны псіхозам нашай нервовай сучаснасці. Аднак гэта толькі часовае забыццё. Верш «Зямля» ёсць ужо сведчаннем, што лірычнага героя праследуе вобраз «зямлі, адурманенай сваім самаздавальненнем». Ён «у пылінках... сажаю ўсмажаных» імкнецца знайсці «прах загінуўшых галактык»; магчыма прыгажэйшых, шляхетнейшых, заселеных істотамі, што:

«Прыгажосць б'е незямная
Ад іх позіркаў і рухаў.
Свежы целы пахнуць маем,
Да пяшчотаў вабяць рукі».
(«Касмічны сон»)

Найбольш важкі глыбінёй зместу верш «Новае» здаецца быць пэўным завяршэннем гэтага першага кроку на багатым яшчэ (у чым мы непахісна ўпэўнены) творчым шляху Зубрыцкага ў яго ўласнай краіне паэтычных успрыйманняў. У ім аўтар задумваецца над істотай суадносін паміж пакаленнямі і песімістычна сцвярджае, што над усім новым вісіць пракляцце быць мімаволі падобным да старога, адыходзячага. Найчасцей так званае «новае» і «маладое», дамагаючыся ажыццяўлення быццам бы свежых сваіх ідэй, на самай справе дабіваецца з усіх сіл толькі таго, каб «сябе, змагаючыся з культамі, на гранітны ўзвесці п'едэстал». Зубрыцкі не абмяжоўваецца тут толькі да аналізу супярэчлівасцей паміж пакаленнямі. Яго назіранні ідуць значна далей — чалавецтва ўсе свае слабасці і заганы, у тым ліку і схільнасць да ашуканства і самападману, цягне за сабою і ў здабываемыя касмічныя прасторы:

«На наш век цяжкія часы выпалі:
У нябесных прыдарожных снах
Мёданоснымі, зямнымі ліпамі
Па-зямному садзім Млечны шлях».

У заключэнне трэба паставіць пытанне: да чаго ж заклікае Ю. Зубрыцкі чытача? Адказ тут можа быць толькі адзін: кліча ён да самадасканалення чалавека, да выхоўвання ў сабе няспыннага імкнення да шляхетнага і высакароднага.

Патрэбны, прыгожы і многаабяцаючы гэта кліч у нашым асяроддзі.

**Мікола Гайдук**
Бельск Падляшскі



**Дзяўчаты. Што адна — то прыгажэйшая. Выраслі яны такія і выхаваліся ў вёсцы Круглы Лясок у Беластоцкім павеце. А сваёй дарогай, цяжка пазнаць, што яны з вёскі.**
**Фота В. Рудчык**

# СКАРБЫ ЛЕСУ

Гайнаўку корміць Белавежская пушча. Гэта вядома ўсім і ўсе наогул спалучаюць Гайнаўку з лесапільнай і дрэваапрацоўчай прамысловасцю. Аднак у пушчы растуць не толькі старыя дубы і небатычныя сосны. Пушча з'яўляецца бяздоннай крыніцай ягад, грыбоў і карыснага зелля, а перш за ўсё толькі тут расце трава зуброўка.

Гаспадары Гайнаўкі патрапілі адпаведна выкарыстаць гэтыя малапрыкметныя скарбы лесу. У Гайнаўцы знаходзіцца база **прадпрыемства лясной недраўлянай прадукцыі «Лес».** База багатая і з доўгімі рукамі. На месцы дае працу для 238 чалавек, а рукі яе сягаюць аж да Бельскага і Сямяціцкага паветаў. Там мае свае філіялы і скупачна-прыёмныя пункты.

Усё, што знаходзіцца ў лесе, цікавіць прадпрыемства «Лес». Вядома як славіцца пушчанскі мёд. Ён лепшы за ўсялякае лякарства. Дык Гайнаўскае прадпрыемства развяло ў сябе пшчолак. Пакуль што 60 вулляў у 11 пасеках. За гэтым мёдам аблізваюцца ў далёкіх краінах. І не толькі за пушчанскім мёдам. Гайнаўскае прадпрыемства «Лес» высылае за граніцу так рэдкі дэлікатэс, як мяса з аленяў, кабаноў, зайцаў і другой лясной звярыны. Усё разам у мінулым годзе склалася на суму амаль 14 мільёнаў злотых. Прадпрыемства зарабіла на чыста звыш 3.200 тысяч злотых. Значыць былі высокія ўзнагароды для ўсяго калектыву. Гэты год яшчэ больш спрыяльны. Рахункаводы прадпрыемства за першае паўгоддзе налічылі ўжо каля паўтара мільёна прыбытку, а вартасць склала 9 мільёнаў злотых.

Багаты гаспадар стараецца мець прыгожую хату. Гайнаўскае прадпрыемства «Лес» таксама. Будаўнічы апетыт у яго даволі вялікі. Хутка (яшчэ ў гэтым годзе) пачне працу прадукцыйная база гайнаўскага «Лесу» ў Белавежы. Можна будзе тут засаліць і закансерваваць у слоіках да 200 тон грыбоў у год. Тады не толькі зубры і зуброўка, але і пушчанскія грыбы будуць славіць Белавежу ў свеце.

Новая база будзе пабудавана таксама ў далёкім Нурцу, але найбольш будаваць прадбачваюць на месцы, у Гайнаўцы. Узнікне тут вялікі будынак, які змесціць кантору, склады, сушарню, сталярню і гаражы. Усё разам будзе каштаваць каля 12 мільёнаў злотых.

У новых будынках пачнуць працу яшчэ новыя аддзелы прадукцыі.

**В. Рудчык**

## Мешканёвая

Беластоцкая мешканёвая спулдзельня належыць да ліку найлепшых у краіне. Ужо трэці раз займае яна другое месца ў Польшчы і першае месца ў Беластоцкім ваяводстве.

Да спулдзельні належыць 3.799 членаў і 1.798 кандыдатаў. У 1966—70 гадах гэта спулдзельня плануе пабудаваць дзве тысячы новых кватэр. (ся)

# У ІСПАНІІ ЗМАГАЛІСЯ ЗА ПОЛЬШЧУ І БЕЛАРУСЬ

**У трыццатую гадавіну антыфашысцкай вайны ў Іспаніі адбылася сустрэча рэдактараў цэнтральнага маладзёжнага друку, радыё і тэлевізіі са старшынёй Краёвай Камісіі Дамбраўшчакаў, намеснікам прэм'ера Савета Міністраў ПНР Яўгеніем Шырам. У сустрэчы прынялі таксама ўдзел прадстаўнікі нацыянальных газет у Польшчы.**

**Яўгеній Шыр прадставіў праграму адзначэння гэтай знамянальнай гадавіны і зрабіў ацэнку гістарычнага перыяду, у якім разгарэлася полымя грамадзянскай вайны ў Іспаніі. Сцвердзіў ён, што гэтая вайна ператварылася ў першую ў Еўропе барацьбу з фашызмам і гітлерызмам. Пасля фашысцкага путчу Франко, запачаткаванага 18 ліпеня 1936 года, тысячы антыфашыстаў і дэмакратаў з розных краін зямнога шара паспяшаліся на дапамогу іспанскаму народу і змагаліся разам з ім супраць путчыстаў, якіх падтрымлівалі нацысцкая Германія і фашысцкая Іспанія. На палях Іспаніі ў той час вырашалася пытанне: быць фашызму і другой сусветнай вайне або быць міру. Вопыт Іспаніі меў велізарнае значэнне ў арганізаванні антыгітлераўскага руху супраціўлення ў многіх краінах Еўропы. З адзіночак і груп добраахвотнікаў хутка фармаваліся інтэрнацыянальныя падраздзяленні, часці і злучэнні Рэспубліканскай арміі з антыфашыстаў славян, немцаў, італьянцаў, французаў, амерыканцаў і іншых. Наогул у грамадзянскай вайне ў Іспаніі прымалі ўдзел прадстаўнікі 54 краін свету. У складзе інтэрнацыянальных часцей быў батальён імя Яраслава Дамброўскага, які пазней вырас у брыгаду. З пяці тысяч дамбраўшчакаў каля трох тысяч загінула ў Іспаніі. Ацалеўшыя прадаўжалі барацьбу з фашызмам на розных франтах II сусветнай вайны. Пасля вызвалення Польшчы асталося ў жыцці ўсяго 800 дамбраўшчакаў. Добраахвотнікі з Польшчы, а таксама з Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны ішлі нелегальным шляхам праз Чэхаславакію, а адтуль у Аўстрыю (пакуль яе ў сакавіку 1938 года не акупіравала Германія) праз «зялёныя граніцы» і далей... Іх шлях быў надзвычай небяспечны і цяжкі...**

**Барацьба з фашызмам у Іспаніі была для дамбраўшчакаў паслядоўнасцю іх ідэйнай паставы, пачуцця патрыятызму, ажыццяўлення прынцыпаў міжнароднай салідарнасці. Дамбраўшчакі разумелі, што вайна ў Іспаніі з'яўляецца таксама барацьбой за Польшчу.**

**Цікавым было выступленне на сустрэчы генерала Войска Польскага Францішка Ксенжарчыка. «Справа знясення нацыянальных розніц у Іспаніі, — сказаў генерал, — была для нас, добраахвотнікаў з Польшчы, вялікай жыццёвай школай. Калі ў нас у Польшчы санацыйныя ўлады распальвалі полымя нянавісці паміж палякамі, беларусамі, украінцамі, яўрэямі і іншымі нацыянальнасцямі, пражываючымі ў краіне, у Іспаніі нарастала поўнае адзінства розных нацыянальных груціровак. У Рэспубліканскай арміі Іспаніі было зусім абыякавай справай, якой нацыянальнасці быў камандзір той ці іншай ваеннай часці. Польскі генерал Вальтэр — Свярчэўскі ў барацьбе з фашызмам на палях Іспаніі вырас да рангу сімвала.**

**У складзе нацыянальных часцей была рота імя камсамольца Ботвіна, з якой пасля крывавага бою асталося ў жывых толькі двух салдат. Добраахвотнікі з Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны згуртаваліся ў роце імя Т. Шаўчэнкі. Варта тут прыгадаць, што камендантам гэтай роты быў адзін з лепшых байцоў міжнародных брыгад беларус Стах Тамашэвіч (сапраўднае прозвішча Мікола Дворнікаў). Гэты палымяны рэвалюцыянер, член ЦК і Сакратарыята ЦК Камсамола Заходняй Беларусі, кіруючы работнік КПЗБ, у 1933 годзе быў удзельнікам падрыхтоўкі масавага выступлення сялян у Кобрынскім павеце супроць санацыйных улад, быў арганізатарам ліквідацыі небяспечнага правакатара ў Камсамоле Заходняй Беларусі Я. Стрэльчука ў 1936 годзе. Гэты смелы канспіратар, адданы рэвалюцыйнай справе камуніст едзе адстайваць маладую Іспанскую Рэспубліку. Пачаткова ён з'яўляецца палітычным камісарам польскага батальёна Паляфокса. Пазней з палітычнай работы пераходзіць на ваенную, узначаліўшы роту імя Т. Шаўчэнкі. Тамашэвіч намерваўся арганізаваць беларускі і украінскі батальёны. Распрацоўваў планы мабілізацыі новых добраахвотнікаў з эміграцыі, якія жылі ў Францыі, Аргенціне, Канадзе, Злучаных Штатах Амерыкі. Ён апрацаваў маніфест да украінскага народа. Са сваёю ротай Тамашэвіч штурмаваў французскія пазіцыі ў гарадах Эстрамадуры. Ён вельмі далёка прарваўся наперад, каб як найбольшы кавалак зняволенай зямлі вярнуць у Іспанскую Рэспубліку, і геройскі загінуў.**

**Варта таксама ўспомніць і аб другім беларусе — удзельніку грамадзянскай**

 

## СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА БЕЗ ТАЯМНІЦ

# pH — ВАЖНЫ ЗНАК

Хто ж з нас не чуў такіх выражэнняў, як кіслотнасць глебы, вапнаванне, ці не спаткаўся з хімічным знакам гэтага **pH.** Гэта зусім не такі ўжо хітры шыфр. Так абазначаецца кіслотнасць глебы. Калі pH больш 4,5, дык глеба вельмі кіслая. Калі pH 4,6—5,5 — глеба кіслая. А 6,5 — глеба слабакіслая. Калі ўбачым гэты знак з лічбамі 6,6—7,2, ведаем, што ў глебе кіслаты няма. Знак pH з лічбамі 7,2 азначае, што глебы шчолачныя.

Гэту інфармацыю падаем таму, што кожны селянін павінен ведаць гэтыя паказнікі. Ва ўсіх грамадах нашага ваяводства ёсць ужо глебавыя карты, якія апрацавала хімічна - сельскагаспадарчая станцыя. Для большай нагляднасці можна лічбавыя азначэнні на карце замяніць колерамі. Нягледзячы на гэта, добра ведаць хімічны знак кіслотнасці, бо вельмі часта можна з ім сустрэцца ў штодзённай працы.

Часам людзі менш азнаёмленыя з сельскагаспадарчымі ведамі, пытаюць, ці словы «кіслая глеба» фактычна значаць, што глеба кіслая? **Так.** Ці, дакнуўшы яе языком, адчуваем гэта? Не. Чаму? Бо глеба ў асноўным — гэта зерняткі пяску featureрознай велічыні. Вядома, пясок смаку не мае. Рэчывы, якія дзейнічаюць у глебе, складаюць нязначную яе частку. Але гэтыя рэчывы — арганічныя і мінеральныя, дакладней, прапорцыя паміж кіслотамі і шчолачамі вырашае аб кіслотнасці глебы. Калі больш кіслот — глеба кіслая, калі пароўну — кіслотнасць нізкая, калі больш шчолаку — глеба шчолачная.

Трэба адзначыць, што стан глебы ніколі не бывае пастаянны.

У глебе праходзіць шмат працэсаў, якія пастаянна змяняюць глебы. Напрамак змен і хуткасць працэсаў залежыць ад віду ўгнаенняў, інтэнсіўнасці высасвання рэчываў раслінамі, колькасці атмасферных ападкаў, уздзеяння бактэрый.

Каб утрымаць патрэбную прапорцыю кіслот і шчолакаў, прымяняюць вапнаванне. Асабліва важнае вапнаванне для раслін, якія любяць глебы ніякія або шчолачныя. Да такіх раслін у першую чаргу трэба залічыць люцэрну, цукровыя буракі, канюшыну, пшаніцу і ячмень.

Чаму вапнуем? Ці толькі справа ў кіслотнасці глебы? Не толькі. Кіслотнасць уздзейнічае беспасрэдна на ўраджайнасць. Ад колькасці вапна і іншых элементаў у значнай меры залежыць колькасць перагною, даступнасць кармавых рэчываў, развіццё карысных бактэрый.

Дзякуючы вапнаванню павялічваецца засвойванне мінеральных угнаенняў, пульхнасць глебы і лепшы доступ паветра, і такім чынам павялічваем у глебе колькасць вапна як аднаго з важных кармавых рэчываў.

Шматлікія доследы на Беласточчыне паказалі, што вапнаваныя ўгнаенні даюць вялікую карысць. Ураджай пшаніцы і ячменю пераважна большыя на 2—3 ц. У апошні час вядуцца доследы, каб праверыць уражлівасць жыта на вапнаванне. Аказваецца, што і жыта, пасеянае на вапнаванай глебе, дае лепшы ўраджай.

Інж. **М. Сухажэбрскі**

ЛІСТЫ З МАЁЙ ВЁСКІ

# ПРА ПАРАСЧЫНУ НІНКУ

Парасчына Нінка не была дзяўчынай найпрыгажэйшай, але не была і найбрыдчэйшай. Была дзяўчынай здаравеннай. мела тоўстыя ногі, чорныя валасы і шырокую шчырую, дабрадушлівую ўсмешку. Нінка апраналася больш-менш так, як усе дзяўчаты, мела ў хаце пярыну і многа вышытых макатак, але ніхто Нінкі ў маёй вёсцы замуж не хацеў браць. Бацькі Нінкі мелі немалую гаспадарку, амаль новую хату, і Нінка была адным у іх дзіцём. Ніхто аднак не лакоміўся ні на хату, ні на гаспадарку, ні на Нінку. Мо таму, што бацьку Нінкі называлі ў вёсцы Болбатам і што сапраўды любіў ён гаварыць многа і без толку, а мо таму, што калісьці заляцаўся да Нінкі ўдавец з суседняй вёскі, а мо проста так, невядома чаму людзі выдумалі, што Парасчына Нінка — не да жаніцьбы.

У кожным выпадку ніхто ў маёй вёсцы не гаварыў пра Нінку ўсур'ёз; часам толькі чулася паміж хлопцамі зласліва:

— Хадзі, пойдзем у сваты да Парасчынай Нінкі. Калі Нінка скончыла дваццаць пяць гадоў, не мела ўжо сяброўак — павыходзілі замуж, а калі набліжалася трыццатка — амаль Нінка перастала выходзіць з хаты і пачала апранацца брыдка. Штораз менш на шырокім Нінчыным твары паяўлялася дабрадушлівая ўсмешка, штораз часцей зашывалася яна ў сваю пасажную пярыну і ціха плакала, штораз больш сумавала маці, а бацька пачаў нават, здаецца, менш гаварыць на вечарынках.

І невядома што было б з Нінкаю, каб у роспачы не пакінула яна сваёй хаты. Знікла Нінка з маёй вёскі, раптоўна, але ніхто гэтага асабліва не заўважыў. Толькі бацькі сталіся яшчэ больш сумнымі, калі даведаліся, што дачка іх выязджае невядома дзе — у свет шырокі. Людзі толькі пасля некалькіх месяцаў заўважылі, што няма ў вёсцы Парасчынай Нінкі. Адны тлумачылі, што яна ў ПГР-ы, іншыя — што ў Хвастах бачылі, але ніхто нічога не ведаў толкам. Аж недзе каля Вялікадня грахнула па вёсцы вестка, што Нінка замуж выйшла.

— Бач, а ўсё ж такі знайшла сабе, — дзіваваліся мужчыны.

— Можа ўдавец які, — здагадваліся бабы. — Або разведзены.

Аднойчы ў нядзелю, улетку ўжо, з пэкаэсу, які стае на акраіне нашай вёскі, выйшла Нінка, а за ёю мужчына — Нінчын мужык. Называўся ён, як мы неўзабаве даведаліся, Франак, быў, штоправда не першай ужо маладосці, але зусім не брыдкі. Нінка была апранута модна, а Франак быў у капелюшы і з гальштукам пры белай, са штыўным каўнерам кашулі. Калі выйшлі з пэкаэсу, Франак узяў Нінку пад руку і так ішлі яны праз усю вёску аж у другі канец да Парасчынай хаты. Нінка разглядалася навокал з годнасцю і радасцю, кланялася ўсім — ад найстарэйшага да наймалодшага, а шчырая, дабрадушлівая ўсмешка не сыходзіла з левуснаў.

Прабыла Нінка са сваім мужам у роднай вёсцы тыдзень часу. Схадзіла ў поле, наведала ў хляве красулю, абглядзела гумно. Усё гэта рабіла от так сабе, для прыемнасці, з мінай чалавека шчаслівага, які цікавіцца ўсялякімі дробязямі жыцця. Франак выходзіў на вуліцу і гутарыў з мужчынамі аб палітыцы і аб жыцці-быцці ў шырокім свеце.

Калі ў наступную нядзелю Нінка з мужыком ад'язджала з вёскі, праводзіла іх Параска і бацька — Якім Балбатун. Якім, як заўсёды, нешта заўзята тлумачыў маладым, а людзі ўглядаліся і зайздросцілі. Асабліва дзяўчаты, якім ужо пара выйсці замуж. Аж дзіва, што на другі дзень не ўпакавалі яны чамаданаў і не паехалі ў нейкі пэгээр шукаць і сабе шчасця.

**Рыгор Паўлюк**

# Дзіўны шум

Часта можна пачуць нараканні нашых гаспадынь, што няма ў крамах парашкоў да мыцця бялізны або шэрага мыла. Здавалася б, што віна тут фабрык, якія вырабляюць гэтыя тавары хатняга ўжытку. Аказваецца, няпраўда гэта. Вінаваціць можна толькі наш гандаль, які часамі зусім нядбайна адносіцца да патрэб гаспадынь.

Нядаўна цэнтраля ГС-аўскай «Самапомачы» арганізавала нават, так званы, месяц чысціні, каб такім спосабам шырэй распрапагаваць куплю мыла ды ўсялякіх парашкоў да мыцця. У час гэтага месяца чысціні гандлёвыя цэнтралі вучылі прадаўшчыкоў крамаў таго, як павінны яны дбаць пра заказы патрэбных нашым гаспадыням такіх тавараў.

Прадукцыя ўсялякіх гатункаў мыла і парашкоў вялікая. Залежваюцца яны на фабрычных складах, а тым часам у крамах часта-густа адчуваецца іх недахоп. Каб не дапусціць больш да такой смешнай сітуацыі, у час месяца чысціні праводзіліся ў некаторых мясцовасцях спецыяльныя паказы поўнага выбару розных гатункаў мыла і парашкоў і іх карысці ў практыцы штодзённага жыцця сучаснага чалавека. У справы прапаганды мыла і парашка ўключыліся мясцовыя радыёвузлы, аддзелы здароўя павятовых рад нарадовых, якія праводзілі асветныя гутаркі для насельніцтва аб патрэбе карыстання мылам і парашкамі да мыцця. У гэту прапагандавую акцыю ўключыліся нават многія грамадска-палітычныя арганізацыі. Словам, зроблена вялікі шум аб карыснасці мыла і парашкоў. Цэлы гэты шум даў такую карысць што ў крамах паявілася больш розных гатункаў мыла і парашкоў да мыцця. Але ці надоўга гэта будзе? Ці не станецца так, што знік шум, знікне і мыла ў крамах? Вернецца, не вернецца!? Можна варажыць.

А сваёй дарогаю шум аб карыснасці мыла ў такой сітуацыі быў крыху несур'ёзным. Усё роўна, як бы людзі бараніліся ад мыла... (ся)

вайны ў Іспаніі С. А. Ваўпшасаву. Актыўны ўдзельнік Кастрычніцкай Рэвалюцыі, а затым у 1921—1924 гадах — партызанскага руху ў Заходняй Беларусі Ваўпшасаў у 1936 годзе знаходзіўся ў Іспаніі ў радах Рэспубліканскай арміі, выконваючы рад баявых заданняў Рэспубліканскага ўрада ў франкісцкім тыле. У час Вялікай Айчыннай вайны — камандзір партызанскага атрада на акупіраванай тэрыторыі Беларусі. За ўзорнае выкананне баявых заданняў С. А. Ваўпшасаву прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

Зразумела, што можна было б прыгадаць яшчэ шмат іншых асоб — добраахвотнікаў з Заходняй Беларусі, якія змагаліся за вашу і нашу свабоду ў міжнародных брыгадах у Іспаніі. Многія беларусы аддалі сваё жыццё на барыкадах Іспаніі, многія прадаўжалі барацьбу з фашызмам у час II сусветнай вайны.

Тры гады крывавіла Іспанская Рэспубліка. Іспанскі народ і добраахвотнікі міжнародных брыгад, баронячы Рэспубліку, заплацілі страшэнную цану за путч мясцовай рэакцыі і за інтэрвенцыю дзвюх фашысцкіх дзяржаў: мільён забітых і звыш чвэрць веку існуючага панавання дыктатуры крывавага генерала Франко.

«No pasaran! Не пройдуць! Фашызм не пройдзе!» — гэты баявы кліч, кінуты трыццаць год таму назад у Іспаніі, антыфашысты поўнасцю апраўдаюць. Іспанскі народ таксама дачакаецца вызвалення.

**ВІКТАР ШВЕД**

ЭТНАГРАФІЧНЫ КУТОК



Хата з Крывой, Бельскага павета. Фота Ул. Юзвюк

# АБ КРЫНКАХ АМАЛЬ УСЁ (1)

Мястэчка Крынкі знаходзіцца ў Сакольскім павеце. Пасля Саколкі з'яўляецца яно найбольшым цэнтрам гарадскога тыпу і найбольшым прамысловым цэнтрам у гэтым павеце. Тут існуе гарбарня. Калісьці гарбарняў было больш, ды самыя Крынкі былі большымі, падобнымі да сапраўднага горада. Знішчыла вайна.

**ШТО ЗРОБЛЕНА?**

Што зроблена за пасляваенны час для дабра Крынак і крынкаўскай аколіцы? Пасля вайны Крынкі выглядалі як адна вялікая руіна. Пачарнелыя развалiны тырчэлі тут аж да 1961 года. Ачыстка развалін каштавала разам больш чым паўмільёна злотых. За апошнія гады праведзена капітальныя рамонты сарака будынкаў, якія належаць да камунальнай гаспадаркі. Перададзена пад загаспадараванне 197 пляцаў, а 106 гаспадароў атрымала дазволы на будову новых жыллёвых і гаспадарскіх будынкаў. Рамонт і будова новых дарог каштавала каля трохсот тысяч злотых. Апрача таго быў значны ўдзел самых крынчан, якія чынам выканалі шмат карысных прац. Вартасць гэтых прац перавышае дзвесце тысяч злотых.

У апошнія гады сарганізавана ў Крынках, так званы, сельскагаспадарчы цэнтр, які дыспануе поўным камплектам сельскагаспадарчых машын. Ёсць дзве святліцы — спулдзельчая і пажарнікаў — а таксама грамадская бібліятэка з чытальняю, СПР, бібліятэка пры гарбарні і клуб - кавярня. Як бачым, ёсць магчымасці шырокай папулярызацыі культуры і асветы. Прытым ужо каля сямідзесяці крынчан маюць тэлевізары, а радыёпрыёмнікі і папулярныя «точкі» знаходзяцца амаль у кожнай хаце. Ёсць сваё кіно, якое арганізуе сеансы таксама і ў акалічных вёсках. У Крынках існуе дзіцячы сад, дзе мае апеку 50 дзяцей.

Як вынікае са справаздачы грамадскай рады, лекарская апека тут найлепшая ў ваяводстве, а нават у цэлай Польшчы. У мястэчку знаходзіцца раённая бальніца, пункт аховы здароўя і радзільны дом. Працуе трох лекараў і дэнтыст. Дзеці школьнага і дашкольнага ўзросту маюць пастаянную апеку. выдзелена для гэтага спецыяльны штат медсясцёр. Нядаўна раённая бальніца атрымала карэтку.

Добра служыць справе развіцця Крынак мясцовая спулдзельня «Самапомачы» (ГС). Мае яна дзесяць крамаў з розным асартыментам тавараў, два кіёскі, механічную пякарню, бойню, вядзе прадукцыю газаваных вод — прыезджыя госці вельмі хваляць крынкаўскую аранжаду. Вядомая рэч, што ў такой мясціне павінна быць і гаспода. Такая гаспода ёсць, хаця крынкаўскія жонкі не надта задаволены ёю... Механічная пякарня абяцае, што нарэшце дасць удосталь хлеба, якога вечна не хапае ў Крынках, асабліва ў летні час. Калісьці да Крынак курсаваў толькі адзін аўтобус. Цяпер з Крынак у Беласток ад'язджае і прыязджае чатырнаццаць аўтобусаў ПКС — не лічачы тых, што курсуюць да павятовай Саколкі.

**ШТО БУДЗЕ ЗРОБЛЕНА?**

Будзе зроблена нямала. Зрэшты, у гэтым месцы варта расказаць аб плане на 1966—70 гады. У плане прадбачана: выжвіраваць дарогу з Крынак да Юраўлян; пабудаваць вуліцы Горную і Дзяржынскага; укласці тратуар на вуліцы Новай; пабудаваць купальны басейн ля вуліцы Касцельнай; пабудаваць спартыўную пляцоўку пры школе; пабудаваць грамадскую святліцу пры вуліцы Бэма; пабудаваць з дзяржаўнага фонду пяць новых студняў і адрамантаваць старыя; перабудаваць вулічнае асвятленне; упарадкаваць і загаспадараваць зялёную зону пры вуліцы Гарбарскай; правесці рамонт усіх камунальных кватэр; перабудаваць кіно; пабудаваць чатыры новыя крамы пры вуліцы Сакольскай; пабудаваць склады кармавых канцэнтратаў; пабудаваць склады будаўнічых матэрыялаў; пабудаваць базу скупу жывёлы; стварыць пункты рамесных паслуг: цырульню, электратэхнічны, радыётэлевізійны і інш.

Значыць, за гэтыя гады зробіцца не менш, чым за мінулае дваццацігоддзе. Сведчыць гэта аб размаху ў будове новых Крынак. У грамадскай радзе падлічылі, што за апошнія пяць год крынкаўскія гаспадары пабудавалі каля 85 жыллёвых і гаспадарскіх будынкаў. Відаць гэта па тым, як забудоўваюцца былыя пажарышчы. Штораз менш пустых пляцоў у цэнтры мястэчка і далей. Беляцць у сонцы новенькія мураваныя дамы, нават аднапавярховыя, зелянеюць сады, якія выраслі на былых пустэчах.

Але нішто не прыходзіць лёгка. Крынкі маюць і свае балячкі. Аб гэтых балячках напішам. (СЯ)



 



У гэтым годзе адзначана 20-годдзе Мінскага трактарнага завода — аднаго з найбольшых прадпрыемстваў рэспублікі, прадукцыя якога атрымала сусветнае прызнанне. Тройчы беларускія трактары адзначаліся прызамі і залатымі медалямі на міжнародных выстаўках. У бягучай пяцігодцы заводам будзе выпушчана звыш чатырохсот тысяч трактараў. На здымку: У Мінскім заводзе.

## Трактар — альпініст

Амаль немагчыма карыстацца трактарам, камбайнамі ці іншай сельскагаспадарчай машынай на схілах гор. Калі нахіленне ската перавышае 10 градусаў, яны проста абсоўваюцца. Таму жыхары гор мусяць паслугоўвацца кетманам (свайго роду матычка, ужываная ў Сярэдняй Азіі) або лёгкім плугам, у які запрагаюць каня або асла.

Савецкія канструктары пастанавілі дастасаваць для гэтага колавы трактар «Беларусь». Для гэтага ўведзены новыя комплексы, а перад усім механізм з гідраўлічным аўтаматам - стабілізатарам, дапасоўваючы колы да схілу. Уведзена новая сістэма кіравання і пярэдняя перадача.

Узнік трактар-альпініст, які дасканала дае сабе рады з яздой па схіле. Удасканаленне палягае на тым, што бочныя перадачы перасоўваюць колы трактара ў вертыкальным напрамку, пакуль трактар не займе вертыкальнае становішча. Адпаведнае становішча колаў устанаўлівае самадзеючы, вышэй успамянуты, аўтаматычны стабілізатар. Перароблены трактар атрымаў назву «Т-ТОК». Прайшоў ён пробы на гарыстых землях Грузіі. Ён араў двухскібавым плугам, цягнуў машыны да ўстаўляння слупаў, супрацоўнічаў з касілкай, грабілкай і т. п. (ака)

## 137 гадоў у шахце

У мясцовасці Барлін у Францыі адбылася ўрачыстасць надання высокіх узнагарод тром шахцёрам польскага паходжання: Чаславу, Тэодару і Эдмунду Шалатам. Чеслаў, бацька двух астатніх Шалатаў, прыехаў з сям'ёю ў Францыю перад I сусветнай вайною і шмат гадоў працаваў у шахце. Яго следам пайшлі абодва сыны. Разам сям'я Шалатаў перапрацавала «ўнізе» 137 гадоў. (ліў)

## Людзі ў клетцы

У Бальтыморы (ЗША) адкрыты суперсучасны заапарк. Звяры жывуць там на агромнай прасторы, як найлепш прыстасаванай да іх патрэб, без клетак, ва ўмовах амаль падобных, як на свабодзе. Але наведвальнікі заапарка знаходзяцца ў... клетках, каб беспасрэдна не сустрэцца са звярамі.

Заўважана, што звяры прыглядаюцца да людзей таксама цікава, як людзі да звяроў... (ліў)

## АФРЫКАНСКІ АЛФАВІТ

Шэсць вялікіх заходнеафрыканскіх моваў атрымалі агульны для іх алфавіт, аснаваны на лацінскім шрыфце. Над стварэннем яго працавалі лінгвісты — спецыялісты на міжнароднай нарадзе ў Бамака пад кіраўніцтвам ЮНЭСКА.

Група сустрэлася з велізарнымі цяжкасцямі транскрыбіравання мноства мясцовых моваў, такіх, як мова бамбара, на якой гавораць у Малі, малінке, распаўсюджанай у Малі, Гвінеі і заходняй частцы Сенегала, сангей (Малі і Нігерыя), тамашэк і кануры (Нігерыя і Нігер), пеул, на якой гаворыць насельніцтва, што жыве на тэрыторыі ад Сенегала да Паўночнага Камеруна.

Перад экспертамі стаялі дзве асноўныя задачы: 1) трэба было стварыць і прапанаваць нейкую базу для ўсіх гэтых моваў, скласці агульны алфавіт для зычных і галосных гукаў, якія ўласцівыя ўсім, гэтым мовам, 2) максімальна спрасціць гэты алфавіт, каб па магчымасці збавіць дзяржавы Афрыкі ад цяжкасцей тэхнічнага і эканамічнага парадку, якія тармазілі б далейшае развіццё пачатковай адукацыі, друку і ўзаемаадносін паміж імі. Гэтыя патрабаванні выкананы лінгвістамі. Створаны алфавіт графічна просты і ў той жа час перадае на пісьме ўсе фанемы гэтых моваў, амаль не адрозніваючыся ад сістэмы, што ўжываецца ў большасці еўрапейскіх моваў.

Новыя алфавіты шасці асноўных моваў амаль ідэнтычныя. Мовы, пеул, тамашэк і сангей атрымалі 8 дадатковых літар. Увядзенне іх запатрабуе некаторых змен, параўнальна недарагіх, у клавіятурах пішучых машынак і друкарскіх станкоў.

Трудна пераацаніць дасягнутыя экспертамі вынікі.

## Хросныя бацькі ў Мексіцы

У некаторых аколіцах Мексікі выбар хросных бацькоў будучых дзяцей адбываецца ўжо ў час вяселля маладой пары. Паводле традыцыі, усіх будучых дзяцей будуць хрысціць дружбанты, якія абавязаны дарыць сваіх хроснікаў адзеннем, алейкамі, пудрай. Шчаслівыя бацькі дзіцяці частуюць хрышчоных пірагом з рысавай мукі, яек і цукру, хлебам з сырам і паўкілаграмам шакаладак, падобных да нашых дропсаў (такой формы).

Трэба прызнаць, што нашы хрышчоныя бацькі маюць значна большыя выдаткі і клопаты. Але гэта ўжо наш звычай. (а-ся)

Мала, але цікава

### СІБІРСКІ ГОРАД ВУЧОНЫХ

Новасібірск — горад навукі. Тут, паблізу яго, распалажыўся Акадэмгарадок. Пачаўся будавацца ў 1958 годзе. Цяпер шырока славіцца ў свеце. Працуе тут 15 навукова-даследчых інстытутаў і 30 тыс. жыхароў гарадка. Галіны навукі, над якімі ў Акадэмгарадку працуюць, для лепшай арыентацыі падам у польскім гучанні (гэтыя тэрміны многія па-польску вучылі і вучаць у школах):

fizyka ciepła, chemia organiczna, kataliza, chemia nieorganiczna, fizyka jądrowa, chemia fizyczna, hydrodynamika, mechanika stosowana i teoretyczna, spalanie i półprzewodniki, ekonomia i organizacja przemysłu, cytologia, genetyka, matematyka, automacja i instrumentacja, geologia i geodezja, Ośrodek obliczeniowy elektronicznych maszyn liczących i analogowych.

### ДЗІВЫ АНГЛІЙСКАГА ПАРЛАМЕНТА

Палата абшчын — гэта адзіны парламент у свеце, дзе зала пасяджэнняў мае менш месц, чым дэпутаваных. Месц — 450, дэпутаваных — 630. Таму, калі адбываецца нейкае важнейшае пасяджэнне, прыходзяць а гадзіне 6 рана, каб заняць месца. Пасяджэнне пачынаецца ў 14.30.

Зала была перабудавана пасля вайны. Павялічылі колькасць месц для публікі, але не для паслоў.

### ЮГАСЛАВІЯ І ТУРЫСТЫ

Мінулым годам турысты ўсяго свету пакінулі ў прыгожай, сонечнай і з кожным годам маднейшай Югаславіі дасканалы, жыццедайны ўкол югаслаўскай гаспадаркі. (вл)

### ПЕРАДАЧА 1250 СЛОЎ...

...у мінуту — гэта небывалая дагэтуль хуткасць. Дасягнута яна пры дапамозе новай тэледрукуючай устаноўкі, створанай адной з англійскіх фірм.

Новы апарат у 16 разоў перавышае хуткасць звычайнага. Упершыню ён быў выкарыстаны ў Парыжы, у час сеансу сувязі між агенцтвамі ў Лондане, Парыжы і Вашынгтоне. Тэкст, які перадаецца, зашыфроўваецца пры дапамозе перфарацыі на стужцы стандартнай або аўтаматычнай тэледрукуючай устаноўкі. Затым перфараваная стужка зараджаецца ў новую ўстаноўку, якая і перадае тэлеграму, ператвараючы яе змест у электронныя імпульсы. Прыёмны апарат атрымлівае сігналы на той жа хуткасці ў 1250 слоў у мінуту, перфаруючы стужку, якая ў сваю чаргу неадкладна трапляе ў расшыфроўваючы апарат, што друкуе гатовы тэкст. (ака)

# ТАЯМНІЦЫ СТАНЦЫІ П-Т-ІКС

Й ГОРНУНГ

Усе факты, пра якія расказана ў аповесці, адпавядаюць рэчаіснасці. Аўтар палічыў, аднак, неабходным змяніць прозвішчы некаторых супрацоўнікаў савецкай разведкі.

### ПЕРШЫЯ СІГНАЛЫ

На досвітку 28 чэрвеня 1941 года ў пункце радыёперахопу ў невялікім усходнепрускім гарадку Кранцы, што на ўзбярэжжы Балтыйскага мора, на вахту заступіў супрацоўнік секцыі III-F фельдфебель Эрых Ганзенман, змяніўшы пры апаратуры свайго папярэдніка унтэр-фельдфебеля Куна Мальца.

У шырока расчыненае акно аперацыйнага пакоя ўлівалася свежае ранішняе паветра і ружовы бляск світання. Кантрольныя лямпачкі апарата пульсавалі чырвонымі і зялёнымі агеньчыкамі. З рэпрадуктара вырывалася какафонія скрыгату і віску. Некалькі дзён таму назад нямецкія арміі маршалаў Бока, Рундштэдта і Лееба ўварваліся на тэрыторыю Савецкага Саюза, і зараз у эфіры напластоўваліся адна на адну сотні і тысячы размоў, якія вяліся паміж штабамі карпусоў, дывізій і палкоў па абодва бакі фронту, які расцягнуўся на велізарнай тэрыторыі.

Ганзенман заняў сваё месца за апаратам, надзеў навушнікі, уключыў механізм для аўтаматычнага запісу перахопленых радыёграм і раскрыў спецыяльную кнігу, дзе былі занатаваны пазыўныя, дыяпазоны хваль і час перадач кожнай з радыёстанцый, якія ўдалося ідэнтыфікаваць у эфіры. Вялікі насценны гадзіннік паказваў 3 гадзіны 35 мінут. Праз некалькі мінут, як звычайна, павінен быў падаць голас таямнічы перадатчык нарвежскага руху супраціўлення. Радыст падтрымліваў сувязь са сваім цэнтрам у Лондане. Знаходзіўся перадатчык недзе за палярным кругам, і функ-абверу, нягледзячы на ўсе намаганні, ніколі не ўдавалася дакладна яго лакалізаваць, хоць у акцыю былі ўключаны спецыяльныя разведвальныя самалёты «Фізэлер — 156-Шторх» з ганіёметрамі на борце. Відаць, нарвежац, прадбачачы небяспеку, бесперапынна мяняў месца, хаваючыся ў лабірынце шхер і фіёрдаў. Яго перадатчык, вядомы пеленгатарнай службе абвера як «SEK» — паводле літар пазыўных — і сёння пачаў сваю працу пунктуальна. Фельдфебель Ганзенман уважліва ўслухоўваўся ў знаёмы рытм марзянкі, як раптам яе заглушыла хваля новых шумаў і гулаў. Спрактыкаваным вухам Ганзенман вылавіў з гэтага хаосу гукаў пазыўныя сігналы нейкай новай радыёстанцыі, якая працавала на тым жа дыяпазоне хваль, што і нарвежац.

Маніпулюючы рэгулятарамі, фельдфебель павольна настройваў антэну пеленгатара. Шумы слабелі, укладваючыся ў чысты рытм знакаў:

«...K LK... K LK de PTX... K LK... K LK de PTX...»

Ганзенман старанна настроіў апаратуру на даўжыню хвалі новага перадатчыка. Кантрольная стужка імкліва пакрывалася знакамі. Ганзенман ледзь паспяваў прабягаць вачыма падслуханы тэкст. Першы запіс пачынаўся пазыўнымі: «K LK de PTX. 2606.03.30.32 wds Nr. 14 gbt».

Потым стужка стала хутка пакрывацца пяцізначнымі лічбамі — далейшы тэкст быў зашыфраваны.

У фельдфебеля ўжо не заставалася сумненняў, што ён запеленгаваў новую радыёстанцыю, якая мяркуючы па нумары радыёграмы, пачала сваю дзейнасць даволі нядаўна. Каб упэўніцца ў сваіх вывадах, Ганзенман зірнуў у кнігу запісаў, аднак там не было ніякіх звестак аб гэтай радыёстанцыі. Таму, занатаваўшы свае назіранні, ён пайшоў далажыць пра іх начальніку пункта капітану Шустэру, які ў сваю чаргу вырашыў неадкладна паведаміць аб гэтай падзеі секцыі III-F абвера на Цірпіцуфер у Берліне. Тут спецыялісты з даследчага аддзела, прыняўшы пад увагу кірунак разыходжання хваль, прыйшлі да вываду, што новая станцыя, якая карыстаецца пазыўнымі «П-Т-Ікс», належыць да савецкай разведвальнай сеткі на тэрыторыі Германіі. Не марудзячы, цэнтральная радыёстанцыя абвера перадала ўсім пеленгатарным пунктам загад:

«Выкрыт новы перадатчык, які карыстаецца пазыўнымі «П-Т-Ікс». Час перадач — 3.40 і 9.00. Шукаць іншых тэрмінаў перадач. Дакладна вызначыць кірунак і ступень сфер пранікнення I-A». 29 чэрвеня 1941 года ўсе пеленгатарныя пункты абвера пачалі ліхаманкавыя пошукі ўказанага перадатчыка. Праз некалькі дзён да начальніка III аддзела*) абвера палкоўніка Бенцівены пачалі паступаць першыя данясенні аб выніках пошукаў «П-Т-Ікс». Начальнікі асобных пеленгатарных пунктаў у Берліне, Вроцлаве, Трыры, Кранцы, Дортмундзе і многіх іншых гарадах паведамлялі, што на працягу апошніх дзён пасля атрымання загаду з цэнтра яны запеленгавалі каля 20 новых перадатчыкаў, якія працавалі на Савецкі Саюз. У сувязі з гэтым палкоўнік Бенцівены склікаў спецыяльную нараду, у якой прынялі ўдзел начальнік секцыі III-F капітан Рыхард Протцэ, спецыяліст па ліквідацыі непрыяцельскіх перадатчыкаў капітан Модэль, а таксама некалькі іншых афіцэраў.

Не было ніякага сумнення ў тым, што разведвальная сетка рускіх будзе разрастацца з кожным днём. Ужо адзін факт выхаду ў эфір такой колькасці савецкіх перадатчыкаў быў вялікай не-

# ТРЫБУНА чытачоў

## Дзе баба правіць, там чорт царыць?

У людзей ёсць яшчэ такая пагаворка «дзе баба жондзіць, там чорт царыць». Але гэта пагаворка зусім няслушная, бо ў практыцы — наадварот. Дзе баба правіць, там добры лад і парадак. Чаму можа паслужыць прыклад. У Крынках (Сакольскі павот) старшынёй Прэзідыума Грамадскай рады нарадовай з'яўляецца жанчына Тацяна Кірэйчук. У яе ўсюды парадак. Цешыцца аўтарытэтам сярод выбаршчыкаў. Сваім выбаршчыкам яна памагае і раіць у выкананні ўсіх дзяржаўных абавязкаў, а самае найважнейшае, без паўлітра ўсё прыдзяляе і прызнае ільготы. У працаўнікоў рады няма залеглых спраў. Перад ёй былі старшынямі прэзідыума мужчыны. Далёка ў працы было ім да Тацяны Кірэйчук. Для прыкладу, перад ёй быў старшынёй ГРН Анаталь Ганацкі. Больш ён быў у гасподзе, чым у будынку грамадскай рады. За што яго і адклікалі з рады. Былі і другія старшыні, але і ім далёка да Тацяны Кірэйчук.

А.С.
Сакольскі павет

## Узнагароды працаўнікам пошты

Кожны квартал рэдакцыя «Нівы» прызнае рэчавыя ўзнагароды для тых, хто садзейнічае росту падпісчыкаў «Нівы» ў даным павеце.

І так за другі квартал атрымалі рэчавыя ўзнагароды (па 200 злотых кожная) наступныя асобы:

Анна Вісьнеўская — рэферэнт да спраў падпіскі з ОУПТ з Бельска, Уладзімір Гуралеўскі — пісьманосец з пошты Рыбалы (Бельскі павет) і Аляксандр Сахарчук — пісьманосец з пошты Кленікі ў Гайнаўскім павеце. (мх)

## Чытачы пытаюць — „НІВА" адказвае

ПЫТАННЕ: Я ўзяў у арэнду 3 га зямлі на дваццаць год. Умову мы з арэндатарам спісалі ў 1957 г. і пацвердзілі яе ў грамадскай радзе нарадовай. Арэндную плату я заплаціў за ўвесь час арэнды. Цяпер арэндатар хоча адабраць ад мяне зямлю, гаворачы, што ўмова арэнды няважная. Ці мае права ён гэта зрабіць?

АДКАЗ: Умова арэнды, заключаная на час звыш дзесяці год, лічыцца пасля дзесяці год заключанай на тры гады. На працягу гэтых трох год арэндатар можа дэнансаваць дагавор. Калі арэндатар гэтага не зробіць, дагавор прадоўжыцца на далейшыя тры гады. Дагавор паміж вамі і арэндатарам з'яўляецца важным і ў становішчы, якое вы прадставілі, арандатар можа патрабаваць ад вас выдачы зямлі не раней, чым у 1970 годзе.




ДАРАГОЕ СЭРЦАЙКА!

Незадоўга ў нашай вёсцы будзе фэст. Тады заўсёды бывае вялікая забава. Прыязджаюць хлопцы і дзяўчаты з цэлай аколіцы. Кожная дзяўчына перад гэтым святам цешыцца, бо будзе мела аказію з кім-небудзь пазнаёміцца, патанцаваць. Аднак я не вельмі цешуся. Я ад нядаўна сябрую з Веськам з нашай вёскі. Нядрэнны з яго хлапец. Аднак перад гэтым ужо два гады я пазнаёмілася і ўвесь час перапісвалася з Янкам, які працуе і жыве ў Варшаве. Янэк час ад часу прыязджае і адведвае мяне. Ён мае намер жаніцца са мною, толькі я яшчэ хачу трохі пачакаць, бо яшчэ маладая (19 год). Мне падабаецца таксама і Янэк. І вось бяда. Янэк напісаў да мяне, што мае прыехаць на фэст да мяне. І што тады рабіць, Сэрцайка, бо прыйдзе ж таксама па мяне на забаву і Весек. Весек не верыць, што я перапісваюся і сябрую з Янкам, ён думае, што ў нас усё кончылася. Зрэшты, я яму нічога і не гаварыла на гэтую тэму. Парай, Сэрцайка, што рабіць, як паступіць, каб усім было добра. Не хацела б рабіць прыкрасці ніводнаму.

НІНА
з Бельскага павета

Ніна! На жаль і я не магу прыдумаць нічога такога, каб абодва твае хлопцы былі задаволеныя. Мне здаецца, што напэўна будуць мець да цябе прэтэнзію, а таксама адзін другога не будуць дарыць сімпатыяй. Калі ўжо сыйдуцца ў хаце абодва, старайся быць мілай і да аднаго і другога, пазнаём іх. Разам таксама можаш пайсці на забаву, але калі справа возьме іншы паварот, дык будзеш вымушана выбраць або Веська, або Янка. А гэтага ўжо сама ты павінна зрабіць.

СЭРЦАЙКА

чаканасцю для абвера. Бенцівені добра ведаў, што на даным этапе не магло быць і гаворкі пра колькі-небудзь дзейсную барацьбу з тайнымі перадатчыкамі. Гэта была б барацьба ўсляпую, супраць невядомага праціўніка, пра якога ведалі толькі тое, што ён ёсць і дзейнічае. Адзінае, што можна было зрабіць у такім становішчы, — гэта паспрабаваць перапыніць сувязь перадатчыкаў з іх цэнтрам і не даваць ім магчымасці абменьвацца радыёграмамі да таго часу, пакуль не будуць сабраны больш канкрэтныя матэрыялы, якія могуць навесці на след арганізацыі савецкай разведкі.

Такую інфармацыю маглі даць перш за ўсё тэксты радыёграм. Аднак дэшыфроўшчыкі з абвера сумняваліся, што ім удасца расшыфраваць тэксты на працягу бліжэйшых дзён. На іх думку, савецкая разведка ў такіх выпадках выкарыстоўвала ў якасці ключа якую-небудзь кніжку. Заставалася спадзявацца, што ўдасца натрапіць на след гэтай кнігі. У заключэнне нарады палкоўнік Бенцівені загадаў капітану Модэлю пачаць пошукі перадатчыкаў з тых, якія працавалі ў Берліне і яго прадмесцях. Модэлю было загадана стварыць у пагадненні з Галоўным ведамствам бяспекі рэйха спецыяльную аператыўную групу, якой прыдавалася новае пеленгацыйнае абсталяванне, пастаўленае абверу фірмай «Вольф-Радыё». З дапамогай спецыяльных ганіёметраў можна было ў радыусе некалькіх кіламетраў запеленгаваць любы перадатчык з дакладнасцю да аднаго метра.

— Я спадзяваюся, пан капітан, — звяртаючыся да Модэля, сказаў Бенцівены, — што неўзабаве вы з'явіцеся да мяне з рапартам аб выкрыцці і ліквідацыі радыёсеткі непрыяцеля. Прашу цалкам засяродзіць вашу ўвагу на аперацыі супраць перадатчыкаў, якія падтрымліваюць сувязь з Расіяй. Іменна адсюль нам пагражае самая сур'ёзная небяспека. Перадатчыкі, якія працуюць на іншыя разведкі, пакуль што пакіньце ў спакоі. Лёс вайны вырашаецца на ўсходзе — у гэтым, я думаю, ніхто з нас не сумняваецца.

Модэль абяцаў палкоўніку прыкласці ўсе сілы для выканання пастаўленай задачы і, ліха казырнуўшы, выйшаў з кабінета.

Бенціваны падышоў да акна. Па залітаму сонцам бульвару Цірпіца сноўдаліся прахожыя. Многія з іх былі ў палявых мундзірах колеру «фельдграу». Вайна паспела ўжо налажыць свой цень на вуліцы Берліна. Бенцівены кінуў позірк на гадзіннік і, адышоўшы ад акна, уключыў радыё. Перадавалі спецыяльнае камюніке Oberkommando der Wehrmacht*).

Нямецкія танкавыя арміі прасоўваліся наперад на галоўных аператыўных напрамках: Масква, Ленінград, Кіеў. Савецкія часці адыходзілі на ўсёй лініі фронту. Аднак пераможныя весткі з тэатра ваенных дзеянняў не прынеслі палкоўніку задавальнення. З адлегласці ў некалькі соцень кіламетраў франтавыя падзеі трацілі сваю вастрыню. Затое тут, у самым сэрцы III рэйха, у глыбокім тыле нямецкіх арміі затаіўся грозны, невядомы вораг.

ПРАЦЯГ БУДЗЕ

*) Аддзел контрразведкі, у які ўваходзілі 4 радыёстанцыі, у тым ліку адна — пад назвай «функ-абвер».

*) OKW — галоўнае камандванне вермахта.

## У сельскагаспадарчым гуртку Курашава, Гайнаўскага павета



Агляд машын.



Заданні трактарыстам. Рабочую нараду вядзе дыспазітар Антон Васілюк.



Інструктар па механізацыі Аляксей Вашкевіч (першы злева) тлумачыць трактарысту Івану Яканюку, як трэба карыстацца новай машынай.

Фота Мікалай Пракапюк

## ЦЭНЫ

Ваяводская камісія цэн пастаянна сочыць за цэнамі на кірмашах, дзе не абавязваюць дзяржаўныя цэннікі. Яе працаўнікі ў мінулым тыдні (у чацвер у Беластоку і Бельску, а ў сераду — у Гайнаўцы) аднатавалі наступныя цэны (у злотых):

| прадукт | мера | Беласток | Бельск | Гайнаўка |
|---|---|---|---|---|
| жыта | цэнт. | — | 290 | 300 |
| пшаніца | цэнт. | 460 | 480 | 470 |
| яйкі | 1 шт. | 1,60 | 1,55 | 1,50 |
| масла | кг | 60 | 55 | 55 |
| ялавічына | кг | — | 35 | 37 |
| свініна | кг | 36 | 38 | — |
| сала | кг | 34 | 35 | 34 |
| бульба | кг | 1,35 | 1,50 | 1,70 |
| цыбуля | кг | 5 | 5 | 5 |
| капуста | кг | 1,25 | 1,50 | 1 |
| морква | кг | 2 | 3 | 4 |
| буракі | кг | 2 | 4 | 2 |

## КІНО

Праграма
на 23—28.VIII.1966 г.

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Dzielnica szczęścia" (rumuński), 23—24. „Panie inspektorze" (jugosłowiański), 25—26. „Żona dla Australijczyka" (polski), 27—28.

**Кляшчэлі**
„Obrońca z urzędu" (angl.), 23—24. „Zdradzona ziemia" (radziecki), 25—26. „Szkarłatne godło odwagi" (USA), 27—28.

**Дубіны**
„Zakochani są między nami" (polski), „Inspektor Morgan prowadzi śledztwo" (bułg.). 27—28.

**Нарва**
„Był sobie dziad i baba" (radziecki), „Czarne skrzydła" (radziecki), 24—28.

**Нараўка**
„Małpia kuracja" (USA), „Skrawek ziemi ojczystej" (radz.), 24—28.

**Чыжы**
„Umrzeć w Madrycie" (franc.), „Kuba w ogniu" (kubański), 24—28.

**Дубічы Царкоўныя**
„Pingwin" (polski), „Człowiek z przeszłością" (radz), 27—28.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Ameryka, Ameryka" (USA), „Ewa A-5116" (węgierski), 24—28.

**Орля**
„Ojciec żołnierza" (radz.), „Kalosze szczęścia" (polski), 24—28.

**Райск**
„Jest taki chłopak" (radz.), „Koniec naszego świata" (polski), 24—28.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Normandia—Niemen" (radz), 23—24. „Trzy kroki po ziemi" (polski), 25—26.

**Міхалова**
„Dziewięć dni jednego roku" (radz.), 23—24. „Ucieczka z Paryża" (franc.), 25—26. „Nieznany" (polski), 27—28.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Zaczęło się w Rzymie" (włoski), 23—24. „Mam 20 lat" (radz.), 25—27. „Żona dla Australijczyka" (polski), 27—28.

**Мілейчыцы**
„Alba Regia" (węgierski), 23—24. „Bandyci z Orgosolo" 25—26. „Zabawa w muzeum" (węgierski), 27—28.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Błękitny krzyż" (polski), 23—24. „Cisza! na sali operacja" (radz.), 25—26. „Sposób bycia" (polski), 27—28.

**Шудзялава**
„Salto" (polski), „Nowy Gilgamesz" (węgierski), 24—28.

**Сідра**
„Spacer po linie" (angl.), 23—24. „Jo-jo" (franc.), 25—26. „Zawsze w niedzielę" (polski), 27—28.

**Сухаволя**
„Miłość blondynki" (czeski), 27—28.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Новы Двор**
„Ambicja" (radz.), „Ballada o dziewczynie" (wietnamski), 24—28.

**Ліпск**
„Czarne i białe" (USA), „Gładka skóra" (franc.), 24—28.

НІВА

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł. kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok 1 Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

Nakład 5458. Błtk D-3

